# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (786) ГОД XVI БЕЛАСТОК 21 САКАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


## XV ГОД

## ПЯТНАЦЦАЦІГОДДЗЕ СЯРГЕЯ КРЭЙЗЫ

Юбілей БГКТ і «Нівы» Сяргей Крэйза мае поўнае права лічыць таксама сваім уласным святам. Паходзіць ён з Сакольшчыны, з вёскі Малыя Азяраны, у Сямяцічы перабраўся ў 1954 годзе на працу, а пасля ў 1960 годзе пасяліўся ў Мілейчыцах. Цяпер яму 42 гады, з якіх апошнія 15, нягледзячы на слабое здароўе, у значнай ступені прысвяціў ён БГКТ.

— Сябра Крэйза, раскажыце нам пра гэта.

— Пра што тут расказваць, трэба было, дык працаваў. І прызнаюся вам, што грамадская дзейнасць у рамках БГКТ выплывала ў мяне з нейкай унутранай патрэбы. Здаецца мне цяпер, што проста інакш не магло быць. А пачалося гэта ўсё летам 1956 года. Як сведчаць дакументы, 10 чэрвеня 1956 года адбыўся першы арганізацыйны з'езд сямяціцкага аддзела. Сабралося тады 300 асоб. Сярод іх быў і я, а ўжо 1 сакавіка 1957 года Галоўнае праўленне БГКТ даверыла



мне абавязкі штатнага сакратара сямяціцкага аддзела. Ад гэтага часу ўжо безупынку з'яўляюся я членам прэзідыума праўлення сямяціцкага аддзела і ад II-га з'езда БГКТ (30 сакавіка 1958 года) — членам Галоўнага праўлення нашага таварыства.

— Так, працы ў вас шмат, затое і вопыт багаты. Як вы ацэньваеце пройдзены шлях сямяціцкага аддзела?

— Бывала па-рознаму — як у жыцці. У гадах 1957—1959 атмасфера ў Сямяцічах не спрыяла нашай дзейнасці. У 1959 годзе налічыліся мы ледзь 88 членаў, аб'яднаных у 5-ці гуртках. Нічога тады дзіўнага, што Галоўнае праўленне прыняло рашэнне аб ліквідацыі сямяціцкага аддзела і яго справы перадказала бельскаму аддзелу. Аднак нашы актывісты — Іван Вішанка, Барыс Абрамовіч, Аляксандр Чэрында, Максім Рудчык і іншыя — выступалі супраць такога вырашэння справы. Дык пасля кароткага часу сямяціцкі аддзел БГКТ зноў распачаў дзейнасць, а працай яго кіруе інструктар Міхась Вішанка — чалавек бойкі і добры арганізатар.

Працяг на стар. 4



Слаўны гарадоцкі хор. Ужо 20 год папулярызуе ён беларускія і савецкія песні. З нагоды 15-ай гадавіны БГКТ Галоўнае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ўзнагародзіла яго калектыўнай залатой адзнакай ТППР. На здымку сакратар ВП ТППР Зоф'я Трыбульская ўручае прадстаўнікам Гарадка гэтую высокую ганаровую адзнаку. Прымае ўзнагароду адна з заснавальніц калектыву і да сённяшняга дня душа яго — Ніна Мушынская. Побач яе неадлучная сяброўка — частушніца Ніна Цыванюк і кіраўнік Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку Мікола Матэйчук. *Фота Цаф — Сянько*

## Калі заспяваюць жаваранкі

Калі заспяваюць жаваранкі, калі прыляцяць ластаўкі, калі сенажаць упрыгожыць лотаць — распачнецца чарговая, працавітая, сялянская вясна. Як падрыхтавалася да сустрэчы з ёю Беласточчына?

Найлепш ведаюць пра гэта загадчыкі сельскай гаспадаркі ў нашым ваяводстве. Дык да іх — да намесніка старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку *Уладзіміра Міхалюка* і кіраўніка ваяводскага аддзела сельскай гаспадаркі і лясніцтва *Стэфана Завадзінскага* — звярнуліся мы за паясненнямі.

— Найперш трэба прыпомніць, — гаворыць старшыня Міхалюк, — што мінулы гаспадарчы год быў для нашых сялян вельмі неспрыяльны. Даўно ўжо не мелі мы так нізкага ўраджаю. Трэба тады зрабіць усё, што ў сілах сялян і сельскагаспадарчых устаноў, каб дасягнуць высокага ўраджаю ў гэтым годзе. У сельскай гаспадарцы абавязваюць суровыя законы. Адным з іх ёсць закон тэрміновага і правідловага ўгнойвання палёў. У мінулым гаспадарчым годзе сяляне Беластоцкага ваяводства выкарысталі на сваіх палях па 89 кг хімічна чыстага рэчыва (НПК) на кожным гектары. Гэта і многа, і мала. Многа, бо яшчэ 5 год таму назад хлебаробы Беласточчыны высявалі на адзін гектар усяго ледзь па 33 кг НПК, мала — бо ў суседніх ваяводствах на многа нас выпярэджвалі, а ў суседніх еўрапейскіх краінах прымяняюць мінеральных угнаенняў у некалькі разоў больш. Спадзяемся, што ў гэтым годзе нашы сяляне ўпершыню перакрочаць мяжу ста кілаграмаў НПК на адзін гектар. Угнаенні ёсць, можна купляць. Да 15 лютага было ўжо прададзена звыш палавіны гадавога плана. Найбольш штучных угнаенняў купілі сяляне ў Галдапскім, Граеўскім і Алецкім паветах. Нядрэнна ішла продаж у Гайнаўскім павеце. Найгорш — у Беластоцкім, Сямяціцкім, Сакольскім і Сувальскім паветах.

— Ці надалей дзяржава будзе прымушаць сялян адміністрацыйнымі сродкамі, каб куплялі і прымянялі штучныя ўгнаенні?

— Ад адміністрацыйнага прымусу, — паясняе загадчык сельскагаспадарчага аддзела Прэзідыума ВРН у Беластоку С. Завадзінскі, — адступіць мы не можам, бо абавязаны ажыццяўляць сеймовую пастанову. Толькі вырашылі мы праводзіць у гэтай галіне болей рэальную палітыку. Адміністрацыйныя загады на прымяненне штучных угнаенняў атрымаюць толькі тыя гаспадары, якія могуць купіць мінеральнае ўгнаенне, аднак добраахвотна не хочуць гэтага зрабіць. Усім трэба ведаць, што гаспадаранне — гэта грамадская справа і мы вымушаны выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі, каб дабіцца высокага ўраджаю.

Працяг на стар. 4



*Подых вясны.* *Фота Я. Цялушэцкі*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 3-га сакавіка ў Клюковічах адбыўся конкурс на беларускую песню школьнай моладзі Сямяціцкага павета. Узяло ў ім удзел 40 асоб. Першае месца здабыла Зіна Якімчук з Вілінава, а другое — Аля Галінская з Мілейчыц. У групе дуэтаў першае месца прызнана З. Самосюк і М. Паўлючук з Рагачоў, а другое — О. Стрэльчук і Р. Жэрунь з Вілінава. У групе трыо найлепшымі былі школьніцы з Вілінава і Клюковіч, а ў групе квартэтаў — з Вулькі Нурэцкай і Мілейчыц.

■ 4-га сакавіка з нагоды 15-ай гадавіны БГКТ і «Нівы» адбылася сустрэча штатных працаўнікоў Галоўнага праўлення і рэдакцыі «Нівы». У гэтым спатканні ўзялі таксама ўдзел сакратар нацыянальнай камісіі ваяводскага камітэта ПАРП С. Зялінскі і кіраўнік грамадскага аддзела ўпраўлення ўнутраных спраў ВРН М. Куц. Працаўнікам ГП і рэдакцыі былі ўручаны грашовыя ўзнагароды і дыпломы.

■ 7-га студзеня адбыўся конкурс на беларускую песню ў Бельску. З групы салістаў найлепшымі былі: Д. Хмур і К. Талвінская, а з групы дуэтаў — О. Самоцік і Л. Рыбак, а таксама В. Паўлючук і Н. Хіліманюк.

■ 7-га студзеня адбыўся таксама конкурс на беларускую песню ў Гайнаўцы. Шырэй аб ім напішам у наступным нумары.

■ У Гарадку 7.III. адбыўся ўрачысты пашыраны пленум Беластоцкага павятовага аддзела БГКТ, прысвечаны 15-ай гадавіне БГКТ і 15-ай гадавіне супрацоўніцтва гарадоцкага харавога калектыву з Галоўным праўленнем. З дакладам выступіла сакратар аддзела В. Філіпюк. Затым старшыня ГРН У. Кот уручыў Сярэбраны Крыж Заслугі А. Яроцкай. Старшыня ГП БГКТ М. Хмялеўскі ўручыў грашовыя ўзнагароды і дыпломы членам харавога калектыву О. Нядзведзь, Л. Савэрын, Н. Парэмбскай і І. Паўлючук, дыпломы — Н. Цыванюк і Я. Азяблу. Сакратар ГП Я. Зенюк уручыў Залатую адзнаку ТППР А. Яроцкай і прачытаў ліст ад імя прэзідыума ГП з нагоды юбілею гарадоцкага хору. Вёў пленум старшыня аддзела В. Кандрусік. У другой палавіне дня харавы калектыў выступіў з канцэртам для жыхароў Гарадка з нагоды юбілею свайго беларускага таварыства і свята жанчын. (мс)

# УЗНАГАРОДЫ З НАГОДЫ 15-ГОДДЗЯ БГКТ і «НІВЫ»


*Узнагароды ад Рады дзяржавы. Кавалерскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы ўручае Мікалаю Самоціку намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Рамуальд Лазаровіч.*

Як мы ўжо інфармавалі ў папярэднім нумары, з нагоды 15-годдзя БГКТ вялікая група дзеячоў і актывістаў нашага таварыства атрымала высокія дзяржаўныя і іншыя ўзнагароды. Частка з іх была ўручана на ўрачыстым пленарным пасяджэнні ГП БГКТ, якое адбылося 28 лютага, рэшта будзе ўручана на ўрачыстасцях, прысвечаных 15-годдзю ў паасобных аддзелах. Сёння змяшчаем спісак усіх ўзнагароджаных.

### ДЗЯРЖАЎНЫЯ

*Кавалерскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы* — Мікалай Самоцік;
*Залаты крыж заслугі* — Аляксандр Баршчэўскі;
*Сярэбраны крыж заслугі* — Аляксандра Яроцкая;
*Бронзавы крыж заслугі* — Надзея Даніловіч;
— Вера Рышчук.

### ЗАСЛУЖАНЫ ДЛЯ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Яраслаў Кастыцэвіч,
Уладзімір Навіцкі,
Антон Саковіч,

### ЗАЛАТАЯ КАЛЕКТЫЎНАЯ АДЗНАКА ТППР

Хор з Гарадка.

### ДЫПЛОМ ГП ТППР ЗА ЗАСЛУГІ Ў РАЗВІЦЦІ І ЎМАЦОЎВАННІ ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЙ ДРУЖБЫ

Рэдакцыя «Нівы».

### ЗАЛАТАЯ ГАНАРОВАЯ АДЗНАКА ТППР

Віктар Аляксееў,
Валянціна Амельянюк,
Георгій Валкавыцкі,
Леанід Вішанка,
Вольга Гарустовіч,
Андрэй Датчык,
Янка Зенюк,
Аляксандр Казлоўскі,
Віктар Кандрусік,
Зінаіда Лебядзінская,
Сцяпан Лукашук,
Вольга Паўлючук,
Аляксандра Панасюк,
Кастусь Пытлюк,
Сцяпан Трафімюк
Янка Ціванюк,
Аляксандра Яроцкая.

### ДЫПЛОМЫ ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ

Барыс Абрамовіч,
Янка Азябла,
Язэп Альшэўскі,
Янка Аляксеюк,
Анна Амброжэй,
Валянціна Амельянюк,
Пётр Анапюк,
Ніна Андраюк,
Усевалад Анісімовіч,
Янка Аўгустынчык,
Янка Бабік,
Анна Багроўская,
Міхась Бакановіч,
Уладзімір Балтрамюк,
Васіль Баршчэўскі,
Віктар Бура,
Лідзія Бялецкая,
Вера Валкавыцкая,
Георгій Валкавыцкі,
Міхась Валчук,
Тадэвуш Ваўжыняк,
Надзея Верашкова,
Уладзімір Весялоўскі,
Віктар Віснеўскі,
Аркадзь Врублеўскі,


*Уручэнне адзнак імя Янка Красіцкага (уручае старшыня Ваяводскага праўлення ЗМС Мікалай Козак).*


*Уручэнне дзеячам БГКТ адзнак «Заслужаны для Беласточчыны» (уручае нам. старшыні ПВРН Р. Лазаровіч).*

Мікалай Врублеўскі,
Марыя Вязэўская,
Міхась Гацута,
Марыя Галёнка,
Ніна Гайлевіч,
Пётр Германюк,
Аляксандр Давідзюк,
Мікалай Данілюк,
Макар Дзем'яновіч,
Аляксандр Жданук,
Янка Заброцкі,
Сцяпан Зенюк,
Мікалай Зін,
Міхась Зубрыцкі,
Ніна Іванчук,
Мікалай Іванюк,
Вольга Ігнацюк,
Янка Казарэз,
Аляксей Казёл.
Анатоль Казмерук,
Надзея Кандрацюк,
Аляксей Карпюк,
Анатоль Касцюк,
Міхась Кісялеўскі,
Анна Красько,
Янка Крупа,
Марыя Кузьма,
Люба Куптэль,
Уладзімір Куршэль,
Уладзімір Ляўкоўскі,
Валянціна Мамотка,
Язэп Мартынюк,
Ніна Мартыновіч,
Кастусь Масальскі,
Янка Мацкевіч,
Янка Міхайлаў,
Яўгенія Младзяноўская,
Ніна Мушынская,


*Юбілей БГКТ быў таксама і юбілеем «Нівы». Адзнаку «Заслужаны дзеяч культуры» атрымлівае наша рэдакцыйная сяброўка Вера Леўчук, якая працуе ў рэдакцыі ад заснавання «Нівы». (Уручае нам. старшыні ПВРН Р. Лазаровіч).*

Галена Мялешка,
Язэп Навіцкі,
Аляксандр Налівайка,
Янка Нікіцюк,
Вольга Нядзведзева,
Мікалай Падлашчык,
Надзея Парэмбская,
Марцін Пахвіцэвіч,
Хрысціна Петрашкевіч,
Уладзімір Раеўскі,
Васіль Раманчук,
Сяргей Раманчук,
Мікалай Раманюк,
Яўгень Рашкевіч,
Віктар Рудчык,
Міхась Русель,
Стэфан Рыбі,
Анатоль Сакалоўскі,
Васіль Сакоўскі,
Аляксандр Самойлік,
Анатоль Самойлік,
Мікалай Свентахоўскі,
Люба Сегень,
Сцяпан Сілівончук,
Рыгор Скарынкевіч,
Уладзімір Станкевіч,
Уладзімір Суліма,
Ян Суліма,
Янка Сцепанюк,
Люба Сяверын,
Аляксей Сяльвесюк,
Галена Тапалянская,
Павел Тэкайла,
Марыя Федарук,
Сяргей Філіпюк,
Аляксей Харкевіч,
Кастусь Хлябіч,
Марыя Хмялеўская,
Міхась Хмялеўскі,
Ніна Цыванюк,
Янка Цялушэцкі,
Яўгень Чабан,
Віталіс Чыжэўскі,
Марыя Чыквін,
Мікалай Чыквін,
Міхась Чыквін,
Янка Чыквін,
Яніна Чэрнякевіч,
Ада Чэчуга,
Людміла Шарала,
Лявон Шчарбач,
Аляксей Шчука,
Сымон Шыманюк,
Янка Шыманюк,
Люба Ярашэвіч.

### УЗНАГАРОДЫ КІРАЎНІКА АДДЗЕЛА КУЛЬТУРЫ ПРЭЗІДЫУМА ВРН

Тэкля Вашчук,
Аляксандр Іванюк.


*Залатую ганаровую адзнаку ЗМВ уручае сакратару ГП БГКТ Янку Зенюку старшыня Ваяводскага праўлення ЗМВ Казімеж Пятроўскі.*

Вінцук Склубоўскі,
Аляксандр Харкевіч.

### АДЗНАКА ІМЯ ЯНКА КРАСІЦКАГА

*Сярэбраная:*

Мікалай Гайдук,
Сяргей Лукашук;

*Бронзавая:*

Янка Вайцюк,
Аляксандр Мазалеўскі
Міхась Чыквін.

### ЗАЛАТАЯ ГАНАРОВАЯ АДЗНАКА ЗМВ

Міхась Вішанка,
Янка Зенюк,
Аляксандр Іванюк,
Мікалай Куптэль.

### ЗАСЛУЖАНЫ ДЗЕЯЧ КУЛЬТУРЫ

Вера Валкавыцкая (Леўчук),
Юрка Кіслы,
Антаніна Куна,
Мікалай Матэйчук,
Віктар Швед.


*Залатыя ганаровыя адзнакі ТППР уручае сакратар Ваяводскага праўлення ТППР Зоф'я Трыбульская.*
*Фота Цаф — Сянько*

Сцяпан Копа,
Анатоль Мартыновіч.

### УЗНАГАРОДЫ ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ

Вольга Ахрымюк,
Сяргей Бароўскі,
Юрка Бусловіч,
Лідзія Бялецкая,
Галіна Варшыцкая,
Янка Вішанка,
Лідзія Гайдук,
Кастусь Грыц,
Васіль Дзун,
Валянціна Жэшка,
Сяргей Крэйза,
Генрыка Кульчакевіч,
Янка Ляўко,
Ірэна Паўлючук,
Вера Раеўская,
Мікалай Раманюк,
Аляксандр Рафаловіч
Янка Стрышко,
Мікалай Суліма,
Янка Шурбак.

### УЗНАГАРОДА ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ — КАМПЛЕКТ «БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ»

Зінаіда Красоўская,
Юрка Туронак,
Уладзімір Юзвюк.

# ЧАРГОВЫ НАБОР НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ ВАРШАЎСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА

У ліпені гэтага года адбудуцца ўступныя экзамены кандыдатаў на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Згодна з датыхчасовай праграмай і практыкай экзамен ахопіць наступныя прадметы:

А. Для кандыдатаў, якія ведаюць беларускую мову і літаратуру ў межах праграмы агульнаадукацыйнага ліцэя:

I. БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА І МОВА

1. Пісьмовы экзамен па беларускай літаратуры на беларускай мове.
2. Вусны экзамен па беларускай літаратуры і асновах граматыкі беларускай мовы на беларускай мове.

II. ПОЛЬСКАЯ ЛІТАРАТУРА

3. Вусны экзамен на польскай мове. Кандыдатаў могуць пытаць па граматыцы польскай мовы.

Б. Для кандыдатаў, якія не ведаюць беларускай мовы:

I.

1. Пісьмовы экзамен да выбару па адной з наступных моў: рускай, нямецкай, англійскай, французскай, лацінскай.
2. Асобы, якія выбіраюць на пісьмовы экзамен рускую мову, здаюць па ёй таксама вусны экзамен, які прымае пад увагу знаёмства практычнага валодання мовай і асноў граматыкі.

У датыхчасовай практыцы такія кандыдаты на беларускую філалогію з ліку пададзеных вышэй моў выбіралі на экзамен рускую мову.

II. ПОЛЬСКАЯ ЛІТАРАТУРА

3. Вусны экзамен на польскай мове. Кандыдатаў могуць пытаць па граматыцы польскай мовы.

Дакументы трэба дасылаць да канца сакавіка на адрас:

Wydział Filologii Polskiej i Słowiańskiej
Uniwersytetu Warszawskiego
Warszawa, 64, ul. Krakowskie Przedmieście 26/28.

Кандыдатам з па-за Варшавы і яе ваколіц на час экзаменаў забяспечваецца месца ў інтэрнаце.

✲

Вучоба на аддзяленні беларускай філалогіі працягваецца 5 год і заканчваецца абаронай магістэрскай працы па мове або літаратуры, якую студэнты абавязаны напісаць на 4 і 5 курсах. Без завяршэння вучобы магістэрскай працай студэнт не атрымоўвае ніякіх правоў, як гэта было раней, калі можна было атрымаць дыплом заканчэння вуза нават тады, калі не абаранялася магістэрская праца.

З гэтага вынікае, што толькі здольныя і працавітыя студэнты могуць лічыць на паспяховае заканчэнне вучобы.

*(Працяг на стар. 6)*

## KONTRASTY

Сакавіцкі нумар «Кантрастаў» асабліва многа месца прысвячае шматлікім праблемам беластоцкіх тэатраў: драматычнаму і лялечнаму. Гэта з нагоды Міжнароднага дня тэатра. Дык часопіс аб'яўляе конкурс на найбольш папулярнага беластоцкага акцёра, змяшчае выказванні паасобных работнікаў сцэны аб іх працы і кантактах з гледачамі, а дырэктар драматычнага тэатра Браніслаў Орліч у інтэрв'ю, якое даў ён Крысціне Маршалэк, падводзіць дасягненні беластоцкага тэатра і інфармуе чытачоў, што яны змогуць паглядзець у гэтым сезоне. «У гэтым сезоне, — гаворыць дырэктар, — прадбачваецца прыезд у Беласток гродзенскага тэатра і нашы гастролі на Беларусі».

У літаратурнай частцы «Кантрасты» друкуюць апавяданне маладога польскага пісьменніка Зыгмунта Тржышкі «Вярбовая нядзеля», якое на сёлетнім беластоцкім літаратурным конкурсе заваявала першую ўзнагароду.

У пастаяннай рубрыцы «Палёніка ў суседзяў з-за мяжы», якая займае цэлую старонку друку, знаходзім, між іншым, выказванні вядомага беларускага пісьменніка Янкі Брыля пра яго польскіх сяброў.

З прыемнасцю таксама адзначаем, што «Кантрасты» ўганаравалі скромны юбілей нашага тыднёвіка — XV гадавіну яго існавання. Пра «Ніву», пра яе заснаванне і далейшае развіццё расказвае галоўны рэдактар беларускага часопіса Георгі Валкавыцкі.

(в.р.)

## Наш Каляндар

# АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ

22 сакавіка спаўняецца 60 год з дня нараджэння беларускага паэта Аляксея Зарыцкага. Паэт нарадзіўся ў Хоцімску Магілёўскай вобласці, у сям'і служачага. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў электраманцёрам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У 1932 г. паступіў у Маскоўскі інстытут замежных моў, пасля заканчэння якога жыў у Маскве і займаўся літаратурнай працай. Першыя вершы паэта былі надрукаваны ў 1927 годзе ў бабруйскай газеце «Камуніст» і літаратурным дадатку да яе — «Вясна». У 1932 годзе выйшаў у свет яго зборнік «Эпічныя фрагменты». Пасляваенныя творы паэта ўвайшлі ў зборнікі: «Дняпроўскае рэха» (1946), «Арліная крыніца» (1947) «Світанскія сады», «Наш сын» (1950) і інш. У 1951 г. выдавецтва «Советский писатель» выпусціла ў перакладзе на рускую мову кнігу вершаў і паэм А. Зарыцкага «Сады над Бярозай-ракой», у 1955 годзе выйшла на рускай мове паэма «Аповесць пра залатое дно», а ў 1957 годзе — «Паэмы». Паэт паспяхова займаецца перакладамі з рускай, украінскай, польскай і нямецкай моваў.

А. Зарыцкі — член КПСС. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені і медалямі.

* ✲ *

Быў я ў агні,
І пад агнём,
І на кані,
І пад канём.
Ляцеў да хмар,
Бываў на дне.
І смерць у твар
Глядзела мне.
Ў баях згубіў
Я шмат сяброў,
Ды не забыў
Юнацкіх сноў
І маладых
Высокіх дум.
Я чую іх,
Як весні шум
Гаёў і рэк...
Яны ва мне
Наяве, ў сне,
Навек, навек!

*А. Зарыцкі*

прысвяціў дынамічнаму і трагічнаму князю з Трэмбоўля Васільку Расціславічу, які можа быць патрактаваны як прататып стыхійнага казака. Васілько супольна з полаўцамі арганізаваў паходы ў Польшчу. Хваліўся не раз, што ляхам «многа зла прычыніў». Васілько намерваўся аб'яднаць печанегаў і іншыя паўднёвыя, вандроўныя плямёны да генеральнай расправы з Польшчай. Намераў аднак не рэалізаваў, бо асляпіў яго Уладзімірска-валынскі князь Давід Ігаравіч. Чаму? У «Повесці» не знаходзім выразнага адказу. Даследчыкі таксама гавораць рознае. Адны бачаць у паступку Давіда Ігаравіча праяў зайздрасці. Другія кажуць, што Давід дзейнічаў па загаду грэкаў, на якіх рыхтаваў паход Васілько. Трэція думаюць, што Давід дзейнічаў па інспірацыі польскіх феадалаў. Быць можа, што такі погляд найбліжэйшы праўдзе. Калі так, дык трэба сказаць, што феадалы гэтыя абышліся з Давідам не вельмі элегантна ў пазнейшым часе. Бо як гаворыць аўтар «Повесці», узялі ад яго золата за паабяцаную дапамогу ў барацьбе з кіеўскім князем Святаполкам. Але не памаглі, бо ўзялі золата таксама ад Святаполка. Ну што ж, у жыцці рознае бывае і не заўсёды купіш, калі плаціш.

Адбывалася гэта ўсё ў часы панавання ў Польшчы Уладзіслава Германа, які не меў нічога супраць таго, каб пацягнуць з Русі крышку золата, але не праяўляў вялікай ахвоты да непасрэднага, вайсковага ўмяшацельства ва ўнутраныя рускія справы.

Наступны польскі кароль Баляслаў Кшываусты быў у іншай сітуацыі, чым яго папярэднік. Ажаніўся ён з дачкой Кіеўскага князя Святаполка Збыславай. І гэты факт акрэсліў у значнай ступені яго адносіны з Руссю. Аднак «Повесць» канчаецца на 1117 годзе, у росквіце панавання Кшываустага. Такім чынам, аўтар не змог сказаць многага з таго, што сказаць хацеў бы і што сказаў бы, калі б жыў. Адной з апошніх «польскіх» звестак у «Повесці» з'яўляецца інфармацыя аб пабегу ў Русь брата Кшываустага Збігнева, які намерваўся шукаць там дапамогі ў барацьбе з Баляславам. Наіўны. Ці ж Кіеў мог памагаць ворагу свайго саюзніка?

З цэласці «Повесці» бачым, што і ў тагачасных дзяржаўных дзеячоў і ў аўтара наіўнасці было нямала.

Так ці інакш, у «Повесці» знаходзім вялікую колькасць фактаў з галіны руска-польскіх кантактаў, якія маюць грамаднае значэнне для сучаснай гістарычнай і літаратурнай навукі.

Няцяжка заўважыць, што ў руска-польскіх адносінах было ўсяго пакрысе: і прыхільнасці, і варожасці, і перамір'я, і войнаў, і кахання, і гвалту. Не было абыякавасці.

Глыбокая ўдзячнасць належыцца аўтару «Повесці врэменных лет», дзякуючы якому можам сёння, як у люстры, бачыць далёкае мінулае.



Зубр кінуўся ўбок, стаў на дыбы і зваліўся пярэднімі нагамі на калені. У гэты момант разлёгся другі стрэл...

Зубр паспрабаваў быў устаць, але захістаўся і ціха паваліўся на бок, нібы вялікі падсечаны дуб...

Хлопцы сядзелі, як скамянелыя. Яны не бачылі яшчэ людзей, але добра ведалі, хто гэта з'явіўся. Аднак уражанне ад смерці зубра было такое моцнае, што на момант яны зусім забыліся пра становішча, у якім самі знаходзяцца. Яны перажывалі гэтае забойства, як забойства чалавека.

— Падлюгі! — хацеў быў ускочыць Віктар, але Мірон моцна ўхапіў таварыша за руку і прымусіў сесці.

Да зубра ўжо бег знаёмы чорны бандыт са стрэльбай у руках.

«Няўжо адзін?» — падумалі хлопцы.

Але чалавек паглядзеў на зубра, павярнуўся ў той бок, адкуль з'явіўся, і крыкнуў:

— Гатова!

Праз хвіліну падбег яшчэ адзін, незнаёмы, а потым падышлі яшчэ двое. З іх адзін быў той малодшы таварыш чорнага, а другі таксама незнаёмы, але... звязаны!

На ім былі звычайныя боты, запэцканыя ў балоце, як і ва ўсіх, чорнае паліто і кепка. Рукі былі моцна закручаны назад, а рот завязаны хусткай.

Яго адвялі крыху ўбок, штурхнулі і сказалі:

— Сядай!

Палоннік нязграбна сеў на зямлю.

Бандыты абступілі зубра.

— Здаровая штучка! — сказаў незнаёмы.

— Але як скарыстаць яго? — заўважыў малодшы.

— Перацягнем па кавалках, — адказаў чорны.

— А скуру?

— Таксама парэжам на кавалкі. Хвацкія будуць падэшвы.

Потым пачалі раскладаць агонь і разбіраць тушу. Чорны скінуў світку, закасаў рукавы і ўзяўся за справу. Яму дапамагалі таварышы.

Кожны шрам на целе зубра болем адбіваўся ў сэрцах хлопцаў. Чорны акрываўлены бандыт здаваўся катам. Цяжка было разбіраць гэтую магутную жывёліну, а ў іх, як відаць, былі толькі звычайныя паляўнічыя нажы.

— Паслухайце! — спыніўся чорны. — Там ёсць добры кінжал.

У хлопцаў заняло дух...

Чорны накіраваўся да бабровай хаткі.

Праз некалькі хвілін ён вярнуўся.

— Чорт яго ведае, няма! — сказаў ён.

— А рэчы? — устрывожыліся яго таварышы.

— Рэчы на месцы. Толькі чамусьці ўсярэдзіну насыпалася ламачча, нібы хто зверху праламаў.

— А можа, хто кратаў? — падазрона запытаўся незнаёмы.



— Геройства тваё ўжо непатрэбнае: ты ў поўнай нашай уладзе. Ніхто цябе не пачуе. Калі скажаш, то значна палегчыш свой лёс. А калі не... дык мы здолеем прымусіць цябе, — прасіпеў бандыт.

Палоннік усё маўчаў.

— Ну! — грозна крыкнуў чорны. — Адказвай!

— Канчайце хутчэй вашу справу, а я нічога не скажу! — нарэшце прамовіў палоннік.

— Канчаць хутчэй? — засмяяліся бандыты. — Не, брат, пачакай яшчэ. Гэта толькі пачатак.

І чорны выцяў палонніка кулаком па твары...

Небарака пахіснуўся і паваліўся на зямлю. З носа і рота паказалася кроў...

У хлопцаў аж заляскалі зубы ад хвалявання.

— Нельга сядзець!.. Не маем права!.. Трэба страляць! — прашаптаў Віктар.

— Пачакаем, пачакаем хоць крыху, — усхваляваным шэптам адказаў Мірон. — Досыць далёка... Не трапім... А тады канец і яму, і нам. Пакуль ён жывы, пачакаем... Можа, будзе лепшы момант.

Чорны ўзяў галаўню і паднёс яе да твару палонніка.

— Можа, агонь прымусіць цябе гаварыць! Апрача таго, у нас і яшчэ знойдуцца добрыя спосабы. Часу хапае. Кажы лепш!

Палоннік адхіліўся і зноў нічога не адказаў.

— Слухайце, — умяшаўся незнаёмы. — Адкладзём допыт да таго часу, пакуль падыдуць нашы таварышы. Тады зробім гэта па ўсіх правілах мастацтва. А цяпер пойдзем паглядзім наш склад ды будку тых хлопцаў.

— Сапраўды гэтак будзе лепш, — падтрымаў малодшы.

— Добра, — згадзіўся чорны. — А ты тым часам падумай. І не чакай хуткай смерці. Разбяром цябе на кавалачкі, але прымусім сказаць! А цяпер звяжам цябе так, каб ты спакойна мог праляжаць да заўтрага.

Яны зрэзалі доўгую жардзіну, прасунулі яе палонніку між рукамі і каленямі і звязалі яго так, што ён і пaverухнуцца не мог.

Хлопцы былі задаволены. Гэта азначала, што бандыты збіраюцца ісці ўсе трое.

І сапраўды яны ўсе накіраваліся да бабровай хаткі. З вялікім жалем убачылі хлопцы, што чорны ўзяў сваю стрэльбу. Бабровы ручай быў зусім блізка, але, здаецца, адтуль нельга было бачыць палонніка, бо ён сядзеў на зямлі і яго засланяў зараснік, што рос на беразе ручая.

Хлопцам не трэба было дамаўляцца, што рабіць. Абы толькі паспець, пакуль бандыты вернуцца, бо калі яны выявяць недахоп сваіх рэчаў, то ўстрывожацца і зараз жа прыйдуць назад.

Мігам папаўзлі яны да таго месца, дзе сядзеў палоннік. Яны так спяшаліся, што нават не звярталі ўвагі на шолах і хруст, які яны робяць.

Палоннік пачуў і азірнуўся.

— Тсс! — шапнулі хлопцы.

Нібы агонь бліснуў у вачах палонніка. Але болей ён не варухнуўся і застаўся сядзець, як сядзеў.

БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ЯНКА МАЎР ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

*Адрэж па лініі, назначанай пунктырам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаныя кружкамі і нанізаў старонкі на дроцікі або шнурочак.*

94.

— Можа, і ўзлазіла наверх якая жывёліна.

— Ты добра глядзеў? Усё ёсць? Можа, тыя лайдакі дабраліся? — перапытаў малодшы.

— Мы ж глядзелі тады, калі іх ужо не было. Каб яны знайшлі, дык напэўна ўзялі б. А я перамацаў усе рэчы, толькі кінжала не натрапіў. Мусіць, ён заваліўся дзе паміж галля. Доўга было б шукаць.

Але незнаёмы ўсё непакоіўся.

— Трэ было б добра перагледзець усе рэчы, — сказаў ён. — Можа, тыя хлопцы знайшлі, можа, яны яшчэ дзе-небудзь тут?

— Не думаю, каб яны пакваліліся толькі на адзін кінжал, — усміхнуўся чорны і прыняўся зноў за працу.

— А рэвальверы глядзеў? — не адступаў новы.

— Скрынкі на месцы, але я іх не адчыняў, — спакойна прамовіў чорны.

— Вось бачыш.

— Ды чаго ты непакоішся? — умяшаўся малодшы. — Мы ж абышлі ўвесь лес, стралялі, гукалі. Каб яны тут былі, дык адгукнуліся б, пачуўшы людзей. Усе рэчы тады былі цэлыя. Мы і рэвальверы глядзелі.

— А ўсё ж такі трэба пераканацца, — паківаў галавой новы.

— Добра, — супакоіў чорны. — Зараз скончым і паглядзім. Пойдзем нават паглядзець і іх «хату».

Хлопцы чулі ўсю гэтую размову і рыхтавалі сябе да апошніх рашучых падзей. Галоўнай іх перавагаю было тое, што іх лічылі загінуўшымі. А калі здагадаюцца, што яны жывыя, тады ім ужо не справіцца з трыма такімі бандытамі, у якіх яшчэ і стрэльба была. Хіба толькі ўдасца схавацца.

Тым часам бандыты знялі скуру і селі адпачыць.

— Трэ было б за гэтага ўзяцца, — кіўнуў малодшы на палонніка. — Чаго з ім доўга валаводзіцца?

— Але, — устаў чорны.

Палоннік сядзеў на зямлі, апусціўшы галаву. Час ад часу ён торгаў рукамі, але дзе там было вызваліцца!

— Хадзі сюды, сабака! — падышоў да яго чорны, узяў за плечы, падняў і падапхнуў да вогнішча. Потым развязаў хустку.

Хлопцы ўбачылі маладога чалавека гадоў дваццаці васьмі з прадаўгаватым, сухарлявым тварам. Тонкія сціснутыя вусны і зморшчкі на ілбе сведчылі аб яго напружанні, але вочы безуважліва глядзелі некуды міма бандытаў.

— Цяпер ужо можаш крычаць колькі ўлезе, — засмяяўся незнаёмы.

Тады падышоў малодшы і звярнуўся да палонніка:

— Слухай! Ты можаш палепшыць сваё становішча, калі скажаш, якім чынам даведаўся пра нас, хто табе ў гэтым дапамог. Назаві чалавека, які выдаў нас.

Палоннік не адказваў. Бандыт памаўчаў. Пасля пачаў зноў:

96.

Мірон падпоўз збоку, зараз жа перарэзаў вяроўкі і сунуў палонніку рэвальвер.

— Уцякайце! — шапнуў ён.

Але, убачыўшы рэвальвер, палоннік застаўся сядзець нерухома.

— У вас ёсць рэвальвер? — спытаў ён, не паварочваючы галавы.

— Ёсць, нават чатыры.

— У такім разе хавайцеся ззаду і чакайце, а я буду сядзець, як сядзеў. Гэтак мы лягчэй справімся з імі. Я сам спраўлюся з двума, а на вашу долю застанецца адзін. Падсуньце пад мяне рэвальвер. Ці зараджаны ён?

— Зараджаны, іхні, — адказаў Мірон і адпоўз назад.

Палоннік паправіў сваю жардзіну, заблытаў на руках вяроўкі і застаўся сядзець.

Хлопцы схаваліся ззаду.

— Чаму ён не ідзе? — здзівіўся Віктар.

Мірон растлумачыў, у чым справа. Хлопцы адразу напоўніліся ўпэўненасцю і нават гонарам. Яны ж пад кіраўніцтвам аўтарытэтнага чалавека прымаюць удзел у ваеннай аперацыі! Сілы цяпер роўныя, ды яшчэ перавага ў тым, што вораг нічога не ведае.

Каля бабровай хаткі пачуліся трывожныя галасы. Потым адзін бандыт выйшаў з-за кустоў і зірнуў на свой лагер. Палоннік спакойна сядзеў з жардзінай. Бандыт зноў схаваўся.

Праз некалькі часу яны зноў выйшлі, пра нешта горача пагутарылі і разышліся. Малодшы з рэвальверам у руцэ накіраваўся да палонніка, а тыя два пайшлі далей, у бок стаянкі хлопцаў.

Цяпер ужо бандыт трымаў сябе іначай. Ён увесь час азіраўся навокал, прыслухоўваўся і, калі падышоў да палонніка, пачаў хадзіць узад і ўперад. Цяпер ён ужо спецыяльна вартаваў сваю ахвяру.

А тыя шукалі хлопцаў. Толькі на гэты раз ужо не гукалі, не стралялі...

Палоннік сядзеў з жардзінай, апусціўшы галаву, і, здавалася, думаў невясёлую думку.

Хлопцы напружана сачылі за ім і стараліся здагадацца, што ён думае рабіць, каб зараз жа дапамагчы.

Калі вартаўнік адышоўся ў другі бок, палоннік крыху павярнуў галаву назад. Хлопцы нават не бачылі яго твару, але сцямілі, што гэта знак да іх. Значыцца, зараз нешта будзе.

Вось вартаўнік набліжаецца зноў да палонніка. Правая рука з рэвальверам акурат з гэтага боку. Момант — і палоннік ухапіўся за руку з рэвальверам.

Бандыт быў так здзіўлены, што некалькі секунд не зварухнуўся, нібы не даваў веры сваім вачам.

А ў гэты момант абодва хлопцы былі ўжо каля яго. Мірон у першую чаргу абхапіў рукою рот бандыта акурат у той момант, калі той збіраўся крыкнуць.

— Малайчына! — пахваліў палоннік.

Пасля таго ўжо нядоўга было звязаць бандыта такім жа спосабам, як раней быў звязаны палоннік. Зразумела, рот быў запхнуты і завязаны.

(Працяг са стар. 5)

# ЧАРГОВЫ НАБОР НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Паводле новай праграмы, з рускай мовай як дадатковым прадметам навучання, рэалізаванай ад 1968/69, года, студэнтаў абавязваюць наступныя прадметы:

1. Асновы палітычных навук
2. Выбраныя праблемы палітэканоміі
3. Асноўныя праблемы марксісцкай філасофіі
4. Тэорыя грамадскага развіцця
5. Гісторыя народаў СССР з дакладным разглядам гісторыі Беларусі
6. Асноўныя веды аб сучаснай Беларусі
7. Уступныя веды да гісторыі беларускай літаратуры супольна з паэтыкай, стылістыкай, версіфікацыяй
8. Гісторыя беларускай літаратуры
9. Гісторыя рускай літаратуры
10. Гісторыя польскай літаратуры
11. Граматыка царкоўнаславянскай мовы
12. Апісальная граматыка польскай мовы
13. Апісальная граматыка беларускай мовы
14. Гістарычная граматыка беларускай мовы
15. Веды па дыялектах беларускай мовы
16. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы
17. Практычнае авалодванне беларускай мовай
18. Апісальная граматыка рускай мовы
19. Практычнае авалоданне рускай мовай
20. Асновы педагагічных навук
21. Методыка навучання рускай мовы і літаратуры
22. Практычнае і тэарэтычнае авалоданне выбранай заходнееўрапейскай мовы
23. Лацінская мова (для тых, хто не мае ацэнкі на атэстаце сталасці)
24. Фізкультура

Пасля 3 курса наступае спецыялізацыя на літаратураведаў і моваведаў.

Літаратураведаў абавязваюць дадатковыя прадметы:

25. Тэорыя літаратуры
26. Лекцыі па адной са славянскіх літаратур
27. Лекцыі па адной з заходнееўрапейскіх літаратур

Моваведаў абавязваюць дадаткова прадметы:

25. Нарыс параўнаўчай граматыкі славянскіх моў
26. Лекцыі па індаеўрапейскаму або агульнаму моваэнаўству
27. Практычнае і тэарэтычнае авалодванне старагрэчаскай або літоўскай мовы.

На 4 і 5 курсах студэнты ўдзельнічаюць у магістэрскім семінары, праз які, пад кіраўніцтвам навуковых працаўнікоў, рэалізуюць свае магістэрскія працы.

За час вучобы трэба чаргова здаць 26 экзаменаў і экзамен магістэрскі.

Гэтая даволі вялікая нагрузка вынікае якраз з таго, што студэнты беларускай філалогіі рэалізуюць адначасова скарочаную праграму па рускай філалогіі. Дае гэта добрую падрыхтоўку па рускай мове і літаратуры, дзякуючы чаму большасць выпускнікоў беларускай філалогіі паспяхова выкладае рускую мову, у асноўным у варшаўскіх ліцэях.

На жаль, кіраўніцтву кафедры беларускай філалогіі і кіраўніцтву нядаўна створанага Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі дагэтуль не ўдалося дабіцца прызнання сваім абсальвентам правоў па другой спецыяльнасці, у выніку чаго куратарыі прымаюць на работу магістраў беларускай філалогіі да навучання рускай мовы толькі на кантрактных умовах.

Думаецца, што наступяць спрыяльныя ўмовы для прызнання выпускнікам беларускай філалогіі праў па другой спецыялізацыі і што абсальвенты з сёлетняга набору будуць ужо мець поўныя правы таксама па рускай філалогіі.

*мгр Мікола Врублеўскі*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СОУСЫ

Напрадвесні, вядома, зеляніны занадта не маем. Штораз менш маем памыслаў у падрыхтоўцы салатаў. Таму прапануем часцей рабіць патравы з рознымі соусамі. Добра падрыхтаваны соус можа найпрасцейшую патраву зрабіць прысмакам. Павінен ён быць аднак адпаведна густы, гладкі і араматны. Павінен ён быць не толькі адпаведна падрыхтаваны, але і адпаведна падабраны да патравы. Сёння раскажам вам, якія соусы можна рабіць на падставе белай засмажкі.

Перш за ўсё неабходна зрабіць падставовы соус. У каструльцы растапіць лыжку масла ці маргарына, дадаць лыжку мукі, расцерці, астудзіць, развесці шклянкай вады ці малака, або булёнам з мяса ці гародніны. Соус, памешваючы, закіпяціць.

Атрымаўшы падставовы соус, можна рабіць розныя іншыя соусы, розныя па смаку і адпаведныя да розных гатункаў мяса.

### СМЯТАННЫ СОУС

На шклянку падставовага соуса бярэм паўшклянкі смятаны, 1 жаўток, лыжку дробна нарэзанай зялёнай цыбулькі. У астуджаны белы падставовы соус дадаць смятану, размешаную з сырым жаўтком, мяшаць на малым агні, не дапускаючы, каб соус закіпеў. Калі соус загусцее, адставіць яго з агню, усыпаць нарэзаную цыбульку, прыправіць па смаку соллю, перцам і лімонным сокам. Смятанны соус падаюць да варанага мяса, варанай рыбы.

### БЕШАМЕЛЕВЫ СОУС

Бешамелевы соус прымяняецца бадай найчасцей з усіх гэтых соусаў. Падрыхтоўваецца ён на падставовым соусе, зробленым на малацэ. Да падставовага соуса дадаюць расцёрты з соллю і перцам жаўток, хвіліну памешваюць на невялікім агні, не дапускаючы, каб соус закіпеў. Адставіўшы з агню, дадаюць лімонны сок.

Найбольш далікатныя соусы робяць на падставе бешамеля. Падаюць гэтыя соусы да белага мяса, да гародніны, да розных запяканак.

### ХРЭННЫ СОУС

Для хрэннага соусу неабходна ўзяць падставовы соус, падрыхтаваны на булёне. Сцерты хрэн трэба ашпарыць некалькімі лыжкамі гарачай вады (каб быў мяккі), і так пакінуць мінут на 10. Пасля трэба хрэн адцадзіць, спырснуць лімонным сокам, дадаць да падставовага соусу. Дадаць расцерты сыры жаўток, хвіліну мяшаць на невялікім агні, не закіпяціўшы адставіць, заправіць па смаку соллю, цукрам і лімонным сокам.

Гэты соус падаюць зазвычай да варанага гарачага мяса ці рыбы, а таксама да халоднага мяса — шынкі, цяляціны ці свініны.

*Гаспадыня*

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

### ПАВЕДАМЛЕННЕ З АКУПІРАВАНАЙ ПРАГІ

Маёр Штранкмюлер паспяшаўся ў Прагу. Прыбыўшы туды, ён тэрмінова далажыў аб сенсацыйным паведамленні агента начальніку разведаддзела палкоўніку Мараўцу. Было прынята рашэнне тэрмінова далажыць аб усім ураду.

«Калі мы прыбылі на даклад, — пісаў пазней Маравец, урад быў у зборы. Нас праводзілі ў прыёмную. Тут знаходзіліся міністр Хвалкоўскі, генерал Сыровы, Гавелка... Міністр Хвалкоўскі ў вельмі рэзкай форме абвергнуў наша паведамленне. Пры гэтым ён спаслаўся на апошні даклад саветніка чэхаславацкага прадстаўніцтва ў Берліне, калі мне памяць не хлусіць, — Шуберта, які паведамляў, што ў рэйху і яго сталіцы не назіраецца ніякіх прыкмет падрыхтоўкі да нападзення на Чэхаславацкую рэспубліку. Генерал Сыровы рэагаваў на наш даклад прыкладна ў тым жа духу, заявіўшы, што ён сумняваецца ў рашучасці немцаў у гэты момант ужыць сілу».

Аднак 15 сакавіка гітлераўцы ўвайшлі ў Прагу.

Цяпер Варал, які таксама перабраўся ў Прагу, адрасаваў свае данясенні ў Лондан, дзе да таго часу размясцілася група работнікаў чэхаславацкай разведкі, якія пакінулі Прагу да ўступлення ў яе гітлераўцаў. Час ад часу адбываліся і асабістыя сустрэчы на нейтральнай тэрыторыі (у Галандыі).

У час адной з сустрэч Варал паведаміў Штранкмюлеру аб плануемых гітлераўцамі аперацыях супраць краін Усходняй Еўропы. Ён расказаў таксама аб вывадах, якія зрабіў германскі генштаб з вопыту фінска-савецкай вайны 1939—1940 гадоў. У прыватнасці, агент паведаміў, як ацэньваюць нацысты баявую магутнасць Чырвонай Арміі. Вельмі важнымі былі яго паведамленні аб дзейнасці агентаў фашысцкай службы бяспекі і абвера, якія знаходзіліся ў Турцыі і краінах Блізкага Усходу. Ён перадаў спіс нацысцкіх агентаў у Турцыі, а таксама імёны шпіёнаў, якія дзейнічалі супраць Англіі і Савецкага Саюза.

10 мая гітлераўскі вермахт абрушыўся на Галандыю, Бельгію і Люксембург. На працягу некалькіх дзён супраціўленне палявых армій саюзнікаў было зламана, і гітлераўцы ўварваліся ў Францыю. Гэтыя падзеі перапынілі кантакты паміж Варалам і чэхаславацкай разведкай.

Тут трэба зрабіць некаторае адступленне. Сустрэчы Штранкмюлера з Варалам, што адбыліся да гэтага ў Гаазе, назначаліся ў пісьмах, якія чэхаславацкая разведка пасылала ў Галандыю Елінеку. Апошні перапраўляў іх у Прагу, адрасуючы сяброўцы Варала — чэшскай дзяўчыне Людміле Граховай. Яна доўгі час не падазравала аб родзе дзейнасці свайго сябра, якога ведала ад доктара Пауля Хольма ці Пауля Штэйнберга. У прыватнасці, незадоўга да нападзення гітлераўцаў на Галандыю ў адрас Граховай паступіла паштоўка, а за ёю чатыры пісьмы, у якіх ляжалі канверты з надпісам «Для Франты». Варал адразу ж зразумеў, што гэта яму. У канвертах знаходзіліся зашыфраваныя інструкцыі Варалу, які з гэтага часу станавіўся таксама і Франтай.

# ТРЫБУНА чытачоў

## САМАДЗЕЙНІКІ З МОКРАГА

У Мокрым існуе гурток БГКТ і згуртоўвае ўсю моладзь вёскі. Члены БГКТ арганізавалі нядаўна ў мясцовай святліцы вечарыну. На ёй выступіў драмгурток з п'есай «Люцынка-інжынерыха». «Люцынку» аглядалі не толькі людзі нашай вёскі, але было многа моладзі з іншых вёсак. Пасля артыстычнай часткі адбылася забава. Наша моладзь па запрашэнню жыхароў Краснага Сяла выязджала з «Люцынкай-інжынерыхай» у Краснае на іх сцэну. Там таксама вельмі спадабалася ўсім гэтая п'еса.

*Ю. К., Мокрае*

## КРАМА Ў ЦЯЛУШКАХ

Чаго не зможаш купіць у Нарве ці Заблудаве, тады запрагай каня і едзь у вёску Цялушкі, там напэўна купіш. Рабочыя з ПОМ у Нарве таксама едуць купляць гумовыя боты ў далёкую вёску Цялушкі, якая ляжыць ад Нарвы амаль у 20 кіламетрах. Да вёскі Цялушкі едуць людзі купляць тавары з Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў. У цялушкоўскай краме можаш купіць абротку, лейцы, фуфайку, рабочае ўбранне, усялякія ніткі, карункі, гузікі і нават, здаецца, што гэта дробязь, а там ёсць шнуркі да бацінак. Адным словам, прадаўцу ў гэтай краме трэба шчыра падзякаваць за тое, што добра забяспечвае краму неабходнымі таварамі. Неяк наадварот дзеецца ў нараўскім ГС-е.

*М. Лук'янюк, Белкі*

## З ДЗЕЙНАСЦІ ЛОК

Гурток Лігі абароны краю пры пачатковай школе ў Старым Корніне існуе ўжо трэці год і налічвае 45 членаў. Апекуном ЛОК з'яўляецца настаўнік Васіль Сегень. У мінулым годзе члены ЛОК выканалі грамадскім чынам работу вартасці 30 тысяч зл. 32 члены атрымалі дазвол на язду веласіпедам, а 54 члены — адзнакі ЛОК-у. Члены ЛОК былі арганізатарамі двух урачыстых пасяджэнняў: з нагоды Кастрычніка і свята адраджэння Польшчы. Зімой яны дакармлялі птушак і звяроў.

*В. С. Стары Корнін*

## «ЛЯВОНІХА» Ў ЧЫЖАХ

Вечарам 27 лютага г.г. беларуская эстрада «Лявоніха» дала свой канцэрт у грамадскай святліцы ў Чыжах. У яе выкананні былі беларускія, рускія і польскія песні, народныя танцы і гумар.

Вялікая ўпрыгожаная зала святліцы перапоўнілася жыхарамі вёскі, а таксама і моладдзю з суседніх вёсак. Праграма канцэрта была даволі багатая і вельмі ж цікавая. І таму за кожнае выступленне гледачы ўзнагароджвалі салістаў доўгімі апладысментамі.

*Янка Міхалюк, Чыжы*

## ЖАНЧЫНЫ З ПАРЦАВА

У вёсцы Парцава, што на Бельшчыне, добра дзейнічае гурток вясковых гаспадынь. Жанчыны пастанавілі калектыўна гадаваць куранят. Нанялі гаспадарчы будынак, купілі ў інкубатары куранят і па чарзе ходзяць аграваць будынак і даглядаць куранят.

*Я. П., Парцава*

## ЦІКАВЫЯ ЛІЧБЫ

...У грамадзе Стары Корнін 1267 асоб утрымліваецца з гаспадаркі, 725 асоб працуе ў бацькоў на гаспадарцы, а 162 асобы ўтрымліваюцца з іншых работ.

...У 1953 годзе ў Старым Корніне ўведзена точка (радыё), у 1954 годзе — тэлефон, а 7 жніўня 1955 года першы раз засвяціла электрычнасць.

...Першую перадачу тэлебачання жыхары Старога Корніна паглядзелі 18 снежня 1963 года ў школе.

...Спулдзельня ў Старым Корніне ў 1970 годзе выгадавала 60 тысяч штук «брайлераў», што дало 85 тысяч кг мяса і даход 480 тысяч злотых.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

## Сардэчныя тайны

*Дарагое Сэрцайка!*

Калі я прачытала «Сардэчныя тайны» ў апошнім нумары «Нівы», дык і сама рашыла напісаць да цябе пару слоў. Мне 15 год. Вучуся я ў пачатковай школе ў восьмым класе. Год таму назад я пачала сябраваць з хлопцам, які мне вельмі спадабаўся. Ён вучыцца ў той жа школе, што і я. Пеця малодшы ад мяне на 5 месяцаў. Ужо пару месяцаў мы ходзім кожную нядзелю ў кіно. Нядаўна Пеця сказаў, што мяне кахае. Нашае каханне і сустрэчы, якія бываюць вельмі рэдка, нічога нам не перашкаджаюць у вучобе. Я хацела б далей з Пецем дружыць і жыць у згодзе.

Напішы, Сэрцайка, ці так можа быць далей? Можа мы павінны штосьці змяніць? Буду за гэта вельмі ўдзячна.

Лёля з Гайнаўшчыны

*Лёля!* Ты пытаеш, ці павінна ты штосьці ў гэтай справе змяніць? Здаецца мне, што погляды на вашае сяброўства. Бо ці ж у вашым узросце можна гаварыць аб каханні? Мусіць, не. Але сяброўства можа быць, чаму не. Пэўна, што ў тваіх гадах пачынаюць ужо радзіцца нейкія пачуцці да хлопцаў (і наадварот), але гэтага нельга ўспрыймаць сур'ёзна. Перад табой яшчэ прыгожыя гады маладосці, непаўторныя гады, а цяпер — навука. Не раю табе парываць сяброўскіх адносін з Пецем, але перастань думаць катэгорыямі дарослых людзей. Вы ж вучыцеся ў адной школе і ў адным класе, тады ці ж мала ў вас цікавых супольных школьных тэм? Напэўна шмат. Таму вымаўляючы слова «кахаю», дадай — «кніжку». А чытаеце ж напэўна многа цікавых кніжак з абавязковай лектуры і з па-за абавязковай. У такім выпадку і размова будзе цікавейшая і паглыбіце свае веды, абменьваючыся сваімі думкамі.

Жадаю пяцёрак
Сэрцайка

## «ФЁДАРАВЫ СЁСТРЫ»

Нядаўна давялося мне быць у Скупаве. Зайшоў я там у вясковую краму купіць папяросаў. Рух тут у святочны дзень вялікі. Маю ўвагу звярнула худая і бледная жанчына. Падумаў я, мусіць, хворая яна і цяжка ёй жывецца. Бачу, вымае яна бутэлькі ад віна і гарэлкі. Думаў, што назбірала кабета бутэлек, ды будзе купляць тавар першай патрэбы. Але яна просіць у прадаўшчыцы бутэльку віна. Калі выйшла Дзямянчучка (так яе называлі), пайшла гутарка пра яе. На працягу месяца яна са сваімі дочкамі Любай і Жэняй выпіла 30 бутэлек віна і вельмі многа піва. Адкуль яны бяруць грошы на такія частыя выпіўкі? А вось адкуль. Жэня разышлася з мужам. Муж плаціць на дзіця 500 зл., ды з грамадскай апекі атрымоўвае дапамогу. Апрача таго, ёсць у Скупаве такія мужчыны, якія з імі разам п'юць і даюць грошы на віно. Вось, напрыклад, Аляксандр Гарустовіч, атрымаўшы зарплату, адразу пайшоў да гэтых жанчын. І тут адбылася незвычайная сцэнка. Даведалася жонка Гарустовіча, ды з'явілася на панадворку ў Дзямянчучкі. Муж хацеў схавацца. У хаце была кладоўка на бульбу, нешта падобнае да пограбу. Гэтая кладоўка вельмі плыткая, ды ў ёй была вада. Але, нягледзячы на гэта, Гарустовіч палез у яе і стаяў ракам у вадзе, падпіраючыся рукамі, і так прастаяў некалькі гадзін. Ад гэтага нават захварэў. Многа ў краме расказвалі аб Дзямянчучцы. Аднаго разу яна так спілася, што ляжала на дарозе і там пакінула нават сваё паліто. Жыве яна на хутары і часта цяжка ёй дайсці дамоў. У вёсцы Дзямянчучку і яе дочак называюць «Фёдаравы сёстры». Многія дзіву даюцца, што следам маткі пайшлі дочкі. Кажуць, што Жэня з-за маці выгнала свайго мужа. А Люба ў школе была адной з лепшых вучаніц. Яна краўчыха, добра шые, але губіць яе п'янства.

*Жыхар Гайнаўшчыны*

## ЯН ЧЫКВІН У ЛІЦЭІ

Нядаўна Бельскі беларускі ліцэй наведаў беларускі паэт Я. Чыквін — выпускнік гэтага ліцэя. Я. Чыквін правёў сустрэчу з другімі і трэцімі класамі. Сустрэча з Чыквінам адбылася ў беларускім кабінеце, дзе апрача вучняў былі таксама настаўнікі. Паэт вельмі цікава вёў дыскусію з вучнямі. Ён многа расказаў пра сваю творчасць, а таксама вельмі многа гаварыў на тэму сучаснай паэзіі. Сустрэча з паэтам працягвалася 2 гадзіны, але прайшла яна так хутка, што вучні не агледзеліся, калі паэт сказаў: «На жаль, ужо мусім развітацца».

Затым Я. Чыквін падпісваў вучням свае зборнікі вершаў «Святая студня».

*Вера Ахрымюк, Бельскі бел. ліцэй*

## БАЛЬ-МАСКАРАД

Нядаўна ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове адбыўся баль-маскарад, арганізаваны вучнямі другіх класаў. На забаву ліцэісты запрасілі навучэнцаў школы сельскагаспадарчай механізацыі.

Удзельнікі балю прынялі ўдзел у конкурсе на найлепшы маскарадны строй. Першае месца заняў Кшыштоф Гансоўскі.

*(кл), фота Яўгеня Салагуба*

## КАНТАКТЫ ЗМВ І ЗМС

20 студзеня 1971 года адбыўся кулік членаў ЗМС са спулдзельні «Інвалідаў» у Гайнаўцы да гуртка ЗМВ у Карыцісках. У 20 гадзін вечара фурамі да Карыціск прыехалі гайнаўскія зэтэмэсоўцы, дзе быў прыгатаваны гарачы бігос і чай. У час спажывання бігосу адбылася дыскусія на тэму жыцця моладзі ў горадзе і на вёсцы. Пасля супольнай вячэры члены ЗМС і ЗМВ выступілі з багатай артыстычнай праграмай. На канец адбылася забава, у часе якой былі праведзены конкурсы і згадуй-згадуля.

На забаве, якая закончылася а 3-ай гадзіне раніцы, прысутнічала моладзь са Старога Корніна, Махнатага, Тафілаўцаў і Істока. Уся моладзь гуляла культурна. Гэткае мерапрыемства дазволіла лепш пазнаць культурнае і сацыяльнае жыццё моладзі ў горадзе і на вёсцы, навязаць блізкі кантакт вёскі і горада. За падрыхтаванне і правядзенне такога карыснага мерапрыемства належацца словы падзякі праўленню спулдзельні «Інвалідаў», як і членам ЗМВ з Гайнаўкі і ЗМВ з Карыціск.

*В. С., Карыціска*

1) *У Дубінах у прэзідыуме сядзелі, між іншым, злева направа А. К. Калмыкоў і Т. Чайкоўскі.*

2) *У мастацкай частцы ў Дубінах выступілі навучэнцы сельскагаспадарчай школы з гэтай вёскі.*

3) *Пасля акадэміі ў Навасадах палкоўнік Ян Анацік, аўтар кніжкі «Пад шчаслівай звяздой», падпісвае кніжку для Зіны Койлы.*

## З НАГОДЫ 53-ЯЙ ГАДАВІНЫ

53-юю гадавіну Савецкай Арміі грамадскасць Гайнаўшчыны адзначала ўрачыста. У шматлікіх акадэміях, якія былі арганізаваны мясцовымі ўладамі і гайнаўскім аддзелам БГКТ, прынялі ўдзел: палкоўнік паўночнай групы Савецкай Арміі А. К. Калмыкаў і польскія палкоўнікі з Беластока Т. Чайкоўскі і Я. Анацік.

*Тэкст і фота Віктар Бура, Гайнаўка*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 23—24. „Straszliwe skutki awarii telewizora" (radz.), 25—26. „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 27—28.

**НАРАЎКА**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 24—28.

**НАРВА**

„Jak rozpętałem II wojnę światową" (polski), 24—28.

**ЧЫЖЫ**

„Doczekać zmroku" (USA), „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 24—28.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Hugo i Józefina" (szwedzki). „Raj na ziemi" (polski), 24—28.

**АРЭШКАВА**

„Zabawa w masakrę", „Gra" (polski), 27—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), „Taszkient miasto chleba" (radz.), 24—28.

**ОРЛЯ**

„Szkice warszawskie", „Sól ziemi czarnej" (polski), 24—28.

**РАЙСК**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Pali się moja panno" (czeski), 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Zabawa w muzeum" (węgierski), 23—24. „Popioły" (polski), 25—26. „Białe słońce pustyni" (radz.), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Listek figowy" (węgierski), 23—24. „Mój pies Wulkan" 25—26. „Życie, miłość i śmierć" (franc.) 27—28.

**ЯНАЎ**

„Ucieczka w kajdanach" (USA) 24—28.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Największe widowisko świata" 23—24. „Białe słońce pustyni" (radz.), 25—26. „Twarz anioła" (polski), 27—28.

**МЕЛЬНІК**

„Oddział Turbaczowa" (radz.), 23—24. „Dżamila" (radz.), 25—26. „Dziura w ziemi" (polski), 27—28.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Dr Fabrizus działa" (NRD), 23—24. „Ostatnie wakacje" 25—26. „Zdarzenie" (jugosł.), 27—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Nad jeziorem" (radz.), „Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 24—28.

**НОВЫ ДВОР**

„Nie drażnić cioci Leontyty" (franc.), „Za frontem" (radz.), 24—28.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 103-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7352 E-3

## ДЗЯДЗЬКА, ТЫ МАЛАДЗЕЦ!

Маладажоны былі са мною шчырыя:

— Разумееш, дзядзька, мы вырашылі не мець дзяцей.

— Чаму?

— Дзеці брыдка плачуць, — сказаў ён.

— Брудзяць пялёнкі, — сказала яна.

— Не дазваляюць займацца альпінізмам...

— Парашутызмам...

— Вядома, — сказаў 'я, — з дзіцём на руках скакаць з парашутам не будзеш.

Яны зразумелі іронію і наперабой выклалі мне такую кучу дадатковых аргументаў у карысць свайго рашэння, што я шчыра здзівіўся, як гэта чалавецтва дагэтуль не спыніла свайго існавання.

— Дзеткі, — падняў я рукі ўгору, — здаюся. Вы абсалютна маеце рацыю. Але ўсё ж у кватэры павінна быць нейкае жывое стварэнне.

— У нас будзе кошачка, — сказала яна, — такая маленькая пушыстая кошачка.

— Кошачка мяўкае, — сказаў я.

— Лепш завядзем сабачку, — сказаў ён.

— Сабака гаўкае, — адрэзаў я. — Раю вам лепш завесці акварыум. Рыбкі, наколькі мне вядома, не гаўкаюць, не мяўкаюць, не плачуць.

— Дзядзька, ты маладзец! — закрычалі маладажоны. — У дадатак рыбкі не брудзяць пялёнак... Вырашана і падпісана — мы купляем акварыум!

Праз паўгода я зноў прыехаў да іх у госці.

— Дзеткі, як прайшоў водпуск? У якіх краях пабывалі? Якія горныя вяршыні здабывалі?

— Разумееш, дзядзька, мы нікуды не паехалі.

— Чаму гэта?

— Ці ж з рыбкамі паедзеш? — кіўнуў галавою ў бок акварыума. — Хто іх будзе карміць?

— Хто ім будзе мяняць ваду? — дадала яна.

Перахапіўшы мой позірк, яна спехам зашпіліла гузік на падазрона адтапыраным халаце і, зачырванеўшыся, шапнула мне на вуха:

— Разумееш, дзядзька, калі мы ўжо ўсё роўна прывязаны да дому...

*Ц. Меламёд*



*Без слоў.*

# НІЎКА



*Хакей да нашай эры.*

### Талаваломка



На схеме спалучыце элементы, абазначаныя аднолькавымі цыфрамі, так, каб ніводная лінія не перасякалася з другой.

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### СУМНАЯ РАДАСЦЬ

— Іване, чаму ты такі невясёлы?

— Прэмію атрымаў.

— Дзівак, дык гэта ж добра!

— Добра, ды не зусім: з прэміяй і зарплата ледзь не ўся ляснула.

### ВАЖНА

— А цяпер, радавы Сміт, — спытаў інструктар па тактыцы, — ці разумееце вы, як важна не губляць галавы ў час атакі?

— О, так, сэр! Калі салдат у атацы губляе галаву, то яму няма на што надзець каску.

### КАРА

Адна жанчына звярнулася на банкеце да Аўгуста Стрындберга:

— Я не ведаю дастаткова суровай кары для мужчын, якія парушылі сваё абяцанне жаніцца.

— О, мадам, я ведаю, — адказаў пісьменнік, — выканаць гэтае абяцанне.

### ЯКАЯ РОЗНІЦА

Настаўнік: — Якая розніца паміж святлом электрычным і звычайным (дзённым)?

Вучань: — За звычайнае святло не трэба плаціць, пане настаўнік.

### МОЖНА ДАВЯРАЦЬ

— Ці можна давяраць тайну Кастусю?

— Цалкам! Пяць год назад яму павысілі зарплату, а яго жонка і зараз яшчэ не ведае аб гэтым.

### З АМЕРЫКІ

— У сваёй лекарскай дзейнасці я толькі аднойчы дапусціў памылку.

— Якую ж?

— Вылечыў мільянера за два візіты, не ведаючы, што ён мільянер.





*Фамільная гордасць.*

### РАЗМОВА З ЦАРАМ

— Дзеду, праўда бабуля кажа, што ты з царам размаўляў?

— Была справа. Аднойчы ў полк, дзе я служыў у аркестры барабаншчыкам, прыехаў цар. Сустрэлі яго маршам. Потым капельмайстар на адным з тактаў абарваў марш, каб чарговы афіцэр адрапартаваў. А я вазьмі ды й удар у барабан лішні раз. Падышоў цар, глянуўшы на мяне, сказаў: «Дурак!» — дый пайшоў. А больш гаварыць мне з ім не давялося.

### НЕ ЗААПАРК

Пайшлі дзеці з настаўніцай у заапарк. Па дарозе сустрэлі малойчыка з барадою, з валасамі да плячэй. Спыніліся дзеці і прыглядаюцца да яго. А настаўніца кліча:

— Ідзем, дзеці, гэта яшчэ не заапарк.



### ЯК УДАЛОСЯ

Вучняў папрасілі дапамагчы ў распаўсюджанні латарэйных білетаў. Кожнаму далі па дваццаць білетаў. Дзеці разышліся па хатах. Адзін з іх вельмі хутка вярнуўся і горда заявіў:

— Я ўсе білеты прадаў! Усе дваццаць узялі ў адной сям'і.

— Як табе гэта ўдалося?

— А мяне ўкусіў іх сабака.

### НАРЭШЦЕ

— Люсечка, я вас абажаю, я проста вар'яцею!

— Слава богу, нарэшце вы загаварылі, як нармальны.

### ЗАКАЗ

Адна парыжанка звярнулася ў агенцтва прыватных дэтэктываў:

«Прашу сачыць за маім мужам і далажыць, што яна ў ім бачыць».

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Кацярыны Пячынскай з Бельска змяшчаем украінскую народную жартоўную песню:*

## ОЙ КУМ ДО КУМИ ЗАЛИЦЯВСЯ

Ой кум до куми залицявся,
Посіяти конопельки обіцявся.
Він сіяв-примівав,
Присіваючи, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Вибирати конопельки обіцявсі.
Він брав-вибирав,
Вибираючи, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Змолотити конопельки обіцявся.
Він їх молотив,
Молотячи, говорив:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Вимочити конопельки обіцявся.
Він мочив-примочав,
Примочаючы, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Витіпати конопельки обіцявся.
Він тіпав-витіпав,
Витіпаючи, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Випрясти конопельки обіцявся.
Він пряв-випрядав,
Випрядаючи, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Їй наткати полотна обіцявся.
Він ткав-витикав,
Витикаючи, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Їй пошити сорочечку обіцявся.
Він шив-вишивав,
Вишиваючы, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

Ой кум до куми залицявся,
Одягнути сорочечку обіцявся,
Він її одягав,
Одягаючи, казав:
«Ти, кума, ти, душа,
Ти кругом, кума, ох, і хороша!»

### АДНАДУМЕЦ

Адна жанчына, якая была вельмі высокай думкі аб сваім голасе, пазнаёмілася з дырыжорам і прадэманстравала яму сваё майстэрства.

— Мне многія гаварылі, што з такім голасам я магу пайсці і ў оперу. А вы як думаеце?

— Вядома. Калі вы купіце білет...

# Курёзы

### МАТАЦЫКЛ — МАНАЦЫКЛ

Так назваў сваё вынаходства — матацыкл на адным коле — галандскі канструктар Ян Озінг.

«Самае складанае заключалася не ў тым, каб вынайсці манацыкл, — заявіў Озінг, — а навучыцца ездзіць на ім. Толькі спорт, якім я займаўся ў юнацтве (шматбор'е і веласіпед), дапамог мне ўтрымліваць раўнавагу на адным коле. Затое цяпер я спакойна езджу па вуліцах Амстэрдама з хуткасцю 15 км у гадзіну, упэўнена лавіруючы ў патоку гарадскога транспарту.

Думаю, што за манацыклам — будучае: бензіну ён патрабуе нямнога, месца ў кватэры займае мала, ды і канструкцыя яго гранічна простая. Толькі вось асвоіць яго пад сілу не кожнаму — для гэтага трэба мець добрую спартыўную падрыхтоўку».

### ВЫСОКАЦЫВІЛІЗАВАНЫЯ САМАЗАБОЙЦЫ

Містэр Эванс, член муніцыпалітэта англійскага горада Портсмута, вельмі задаволен тым, што яго родны горад дасягнуў высокага ўзроўню цывілізацыі. Выступаючы перад выбаршчыкамі, ён сказаў літаральна наступнае: «У нашым горадзе значна ўзрасла колькасць самагубстваў. Толькі ў цывілізаваным грамадстве бываюць самагубствы... Мы цяпер узняліся ў гэтых адносінах на такі ўзровень, што можам лічыць сябе першымі сярод іншых вялікіх гарадоў».

### ЗБЯДНЕЛЫ ЛОРД

Лідэр Палаты лордаў Джэлікаў па невядомай прычыне адсутнічаў на пасяджэнні Палаты ў час дэбатаў. Потым ён растлумачыў сваю адсутнасць неабходнасцю «ўрэгуляваць праблему ўбрання» і ўдакладніў: «Давялося аддаць зацыраваць штаны».




*Яшчэ яйцо ў курыцы, а патэльня ўжо ляпае.*